Цана 15 гр. „Białaruski Front" 1 kwietnia 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20). Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр. Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 7 (41) Вільня, 1 красавіка 1939 г. Год IV

# Падзел Чэхаславаччыны

Дня 15.III. сёлета Чэхаславаччына перастала існаваць, як незалежная дзяржава і была падзелена на тры часьці, прыгэтым Чэхія ўвайшла ў склад Нямеччыны, як нямецкі пратэктарат, Славакія атрымала „незалежнасьць", а Карпацкая Ўкраіна была забрана Вугрыяй. Гэтыя факты маюць вялікае значэньне ня толькі для Сярэдняй, але і для Ўсходняй Эўропы.

Прычыны падзелу Чэхаславаччыны былі вонкавага і нутранога характару. Ня трэба хіба гаварыць, што спасярод *вонкавых прычын*, якія выклікалі падзел Чэхаславаччыны, на першым пляне трэба паставіць імкненьне Нямеччыны да ліквідацыі дзяржавы, якая, пасьля далучэньня Аўстрыі, апынулася ў кругу нямецкіх зямель, перашкаджаючы злучэньню Аўстрыі з ям. Шлёнскам і будучы клінам у нямецкім дзяржаўным арганізме. Праектаваная зараз пасьля далучэньня Аўстрыі (сакавік мін. году) і рэалізаваная пасьля заняцьця Судэтаў і капітуляцыі Чэхаславаччыны (верасень мін. году) вялікая аўтастрада паміж Вэнай і Брэславам, паказвала, па якое месца гэты клін меўся быць адрэзаны... У будучым канфлікце Нямеччына не хацела пакідаць на Ўсходзе, блізка сваіх цэнтраў, такой краіны, у якой маглаб стварыцца база дзеля адначаснага ўдару на Бэрлін і на Вену. Гэтакая база маглаб стварыцца асабліва для паветранай флёты. Нямеччына забясьпечылася такім парадкам, што забрала Чэхію пад свой пратэктарат, ліквідуючы чэскую армію і адбіраючы ад яе ўсё ваеннае прыладзьдзе (быццам адно з найлепшых у Эўропе), а Славакіі дала незалежнасьць, пакідаючы аднак там свае гарнізоны. Дык ліквідацыя Чэхаславаччыны была пачаткам забясьпечваньня Нямеччынай сваіх тылоў пры надыходзячым канфлікце. Да вонкавых прычын падзелу Чэхаславаччыны трэба яшчэ далічыць пасыўнае становішча чэскіх саюзьнікаў, Францыі і Саветаў, якія ў крытычную мінуту не змаглі даць Чэхаславаччыне помачы.

Але былі яшчэ і *нутраныя прычыны* трагэдыі Чэхаславаччыны. Першай прычынай было незар'ентаваньне чэскіх дзяржаўных мужоў у сапраўдным укладзе палітычных сіл у Эўропе. Яны спачатку не дагледзелі таго, што каля іх вырастае вялікая нямецкая сіла, якая зчасам можа працягнуць рукі ня толькі па Аўстрыю, але і па Чэхаславаччыну. Потым чэскія палітыкі не шукалі паразумленьня з Бэрлінам, спадзяючыся на помач сваіх саюзьнікаў. Урешце чэхі замнога зварочвалі ўвагу на Вену, баючыся павароту Габсбургаў, якія глядзелі на Чэхію, як на сваю „вотчыну", належачую да іх дынастыі. Згэтуль вялікая варожасьць Прагі да павароту Габсбургаў на аўстрыйскі трон. Чэскія палітыкі не прадбачылі тэй магчымасьці, што інтарэсы дзьвух дынастыяў, Гогэнцолернаў і Габсбургаў, будуць злучаны ў руках аднаго чалавека, Гітлера. І гэты чалавек рэалізуе цяпер ня толькі мэты Гогэнцолернаў (імкненьне нямецкай нацыі на паўночны ўсход) але і мэты Габсбургаў (імкненьне на паўднёвы ўсход). Дапушчэньне на аўстрыйскі трон Габсбургаў разлучылаб на доўгія часы Бэрлін і Вену. А гэтага чэскія палітыкі не зрабілі. Цяпер-жа злучэньне ў вадных руках інтарэсаў дзьвух нямецкіх дынастыяў, двух цэнтраў, Бэрліна і Вены, дае магчымасьць стварэньня ў сярэдняй Эўропе вялікай нямецкай імпэрыі, што ўжо і рэалізуецца. Першай ахвярай гэтай рэалізацыі была Чэхаславаччына.

Другой нутраной прычынай катастрофы Чэхаславаччыны было недацэньваньне чэскімі палітыкамі свайго-ж нутранога палажэньня. Набраўшы ў свае граніцы вялікую колькасьць нацыянальных меншасьцяў (немцаў, вуграў, славакаў, украінцаў), чэхі не хацелі ім даць поўных нацыянальных правоў, заяўляючы, што ў іх дэмакратычнай дзяржаве ніхто не павінен наракаць на сваё палажэньне, бо дэмакратызм дае роўнасьць усім... Праўда, яны не прасьледавалі сваіх нац. меншасьцяў так, як гэта бывае ў іншых дзяржавах, але і не давалі ім усіх належных правоў. Асабліва нягодна чэхі адносіліся да славакаў і карп. украінцаў, першым не даючы абяцанай аўтаноміі, а другім накідаючы русафільства і русыфікацыю. Гэта выклікала як у адных так і ў другіх вялікую ненавісьць да чэхаў, а славакі нават прычыніліся ў нядаўнія сакавіковыя дні да ўзарваньня Чэхаславаччыны знутра... Чэхі, замест таго, каб даць сваім славянскім меншасьцям усе правы і гэтым прывязаць іх да сваей дзяржавы тасавалі права сілы да сваіх братніх славянскіх народаў і гэтым прычыніліся да катастрофы сваее дзяржавы. Чэскія ўрадаўцы, чэскія вучыцялі, чэскія каляністы і асаднікі адыгралі ў гэтай катастрофе не малую ролю.

Вось гэткія прычыны вонкавага і нутранога характару прывялі Чэхаславаччыну да катастрофы. Да гэтага трэба яшчэ дадаць і тое, што пасьля верасьня мін. году, калі чэскія саюзьнікі не далі абяцанай помачы, чэскае грамадзянства псыхічна заламалася, згубіла дарэшты веру ў свае сілы — і пайшло на капітуляцыю.

Пры ўсіх сваіх засьцярогах адносна чэскай палітыкі мы аднак выражаем свой спагад Чэхаславаччыне. Робім гэта з дзьвух прычын: раз — што чэскі народ заўсёды хацеў і хоча быць незалежным і за гэту незалежнасьць у даўнейшых часох вёў заўзятае змаганьне, а другое — што беларусы для чэскага народу чуюць вялікую ўдзячнасьць. У Празе беларуская эміграцыя з Саветаў і іншых краёў, дзе беларусы церпяць прасьлед, знаходзіла прыпынак і помач, а беларуская моладзь у чэскіх вышэйшых школах мела магчымасьць здабыць для сябе вышэйшую асьвету і гэтым павялічыць рады бел. інтэлігенцыі.

Апроч гэтага прычынай нашай спагаднасьці да чэскага народу ёсьць факт, што гэты народ страціў сваю незалежнасьць і волю не дабравольна, але пад прымусам, прыгэтым Нямеччына адступіла ад свайго прынцыпу самаазначэньня народаў. Прынцып сілы, тасаваны адносна Чэхаславаччыны, можа выклікаць пры кожнай сусьветнай ці эўрапэйскай буры розныя кампілікацыі ў Сярэдняй Эўропе і можа нарабіць Нямеччыне шмат клопату. Бо жывога народу, які хоча жыць і які імкнецца да волі, ня можа зьніштожыць ніякая сіла. У жыцьці народаў павінен панаваць не прынцып сілы і няволі, але прынцып вольнага сужыцьця.

---

# Мабілізацыя на Ўсходзе Эўропы.

Перажываем цяпер грозныя і разам з гэтым цікавыя падзеі. Асаблівую ўвагу палітычных кругоў зварочвае падзел роляў паміж Італіяй і Нямеччынай: тады калі Італія ўзьнімае калатню з Францыяй на Захадзе за афрыканскія калёніі, Нямеччына змагаецца на Ўсходзе Эўропы з англійскай палітыкай, ідучай да акружэньня яе ў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе. Абедзьве вялікія дзяржавы вядуць паміж сабою на Ўсходзе заўзятае дыпляматычнае змаганьне, у катоpым, як відаць, бярэ верх не Англія, але Нямеччына.

Найбольшую ўвагу ў гэтым змаганьні зварочваюць на сябе такія факты: падзел Чэхаславаччыны, забраньне пад нямецкі пратэктарат Чэхіі, стварэньне незалежнай Славакіі, ліквідацыя Карп. Украіны, падпісаньне румынска - нямецкага гандлёвага дагавору, а ўрэшце далучэньне Клайпэды да Нямеччыны. Усе гэтыя падзеі ёсьць этапамі ў нямецкай мабілізацыі на Ўсходзе. Прыгледзімся бліжэй да гэтых падзеяў.

**Чэхія** была далучана 15.III. да Нямеччыны. Аб прычынах далучэньня мы пішам у перадавым артыкуле нашай газэты, але ці гэныя прычыны, на якія мы там паказалі, вычэрпываюць усю закулісную ігру, якая адбылася каля Чэхаславаччыны, мы цяпер ня ведаем. Нямецкая прэса піша, што падзел Чэхаславаччыны быў **канечнасьцяй** ня толькі з стратэгічнага пункту гледжаньня, але і палітычнага, бо чэскі ўрад пачаў зносіцца з Англіяй. Выглядае, што Нямеччына ў будучым канфлікце на Захадзе ці на Ўсходзе хацела мець забясьпечаныя ад усякай магчымасьці свае тылы. Апроч гэтага яна ўзыйшла на дарогу будаваньня даўнейшага Нямецкага Райху, да каторага належала Чэхія.

Але магчыма, што Гітлер у сваей гутарцы з чэскімі дзяржаўнымі мужамі меў яшчэ іншыя пераконываючыя аргумэнты, аб каторых мы ня ведаем, бо гэтыя мужы ня толькі не пратэставалі, але нават заклікалі свой народ, каб не праціўіўся ўваходу нямецкай арміі на чэскую тэрыторыю. Гэта для пастаронных асоб, якія ня ведаюць усіх тайніц дыплямацыі апошніх часоў, астаецца незразумелым. Бо страціць сваю незалежнасьць, аддаць Нямеччыне ўсю дзяржаўную маемасьць, усё сваё ўваружэньне, якога хапілаб быццам для 40 дыві-

зыяў (3 тысячы аэраплянаў, 5 тыс. танкаў, 60 тыс. кулямётаў, мільёны стрэльбаў) апроч гэтага вялізарныя, адны з найлепшых ў Эўропе амуніцыйныя фабрыкі, усё гэта аддаць і нічога не атрымаць, гэта ня ляжыць у натуры практычнага чэскага народу. З гэтага відаць, што Чэхія пала ахвярай нейкай глыбокай дыпляматычнай ігры з боку Нямеччыны.

Другой важнай праявай гэтай ігры было стварэньне **Славакіі.** Славакі зараз пасьля абвешчаньня сваей незалежнасьці, паддаліся пад апеку Гітлера, відаць баючыся апекі Вугрыі. Гітлер апеку прыняў — аднак, паміма гэтага, паміж Славакіяй і Вугрыяй разгарэлася крывавае змаганьне за „спрэчныя“ тэрыторыі. Вугрыя не магла згадзіцца на тое, каб Славакія, якая да Вялікай вайны была вугорскай „вотчынай“, адыйшла не пад яе, але пад нямецкую апеку. Затым і разгарэлася вайна паміж нямецкімі саюзьнікамі, Славакіяй і Вугрыяй. Вугрыя, карыстаючыся з агульнай мабілізацыі на Ўсходзе, хоча выраўняць свае крыўды і прэтэнсіі. Але трэба спадзявацца, што гэтае „выраўнованьне“ „крыўдаў“ доўга трываць ня будзе, бо на тэрыторыі Славакіі стаіць нямецкае войска, якое далей, чым гэта „належыцца“ Вугрыі, вугорскага войска ня пусьціць...

Але найцікавейшая ігра адбылася каля Карп. Украіны. Гэтая малая аўтаномная краіна разлучала дзьве дзяржавы: Польшч і Вугрыю, якія хацелі мець супольную граніцу. Польская і вугорская палітыка ўсей сілай ішлі да таго, каб гэту аўтаномную краіну зьліквідаваць. Аказія дзеля ліквідацыі надарылася якраз пры падзеле Чэхаславаччыны — і Карп. Украіна была забрана вуграмі пасьля крывавых баёў з укр. січовымі стральцамі, якія змагаліся да канца. Найважнейшае ў гэтым змаганьні тое, што Нямеччына адказалася даць помач Карп. Украіне, хоць урад Карп. Украіны з гэтым зьвярнуўся да Гітлера. Відаць, што **Нямеччына яшчэ перад гэтым згадзілася на заняцьце Карп. Украіны вуграмі** і на стварэньне супольнай граніцы паміж Польшчай і Вугрыяй...

Тут мы даходзім да найважнейшага пункту ў мабілізацыі на Ўсходзе Эўропы, іменна да пытаньня, **дзеля якіх прычын** Нямеччына згадзілася на анэксію Карп. Украіны Вугрыяй і на супольную польска-вугорскую граніцу? Каб разьвязаць гэтае пытаньне, трэба дапусьціць толькі адно: добрыя адносіны з Польшчай і Вугрыяй ёсьць для Нямеччыны вельмі карысны — і дзеля гэтых добрых адносін яна ахвяравала Карп. Украіну. Трэба не забывацца аб тым, што перад Нямеччынай стаіць вялікае змаганьне як на Ўсходзе так і на Захадзе, а ў кожным такім змаганьні Нямеччына хоча мець забясьпечаную нэўтральнасьць (а магчыма і помач) з боку Польшчы і Вугрыі. Дык ліквідацыя Карп. Украіны ёсьць успакаеньнем як Польшчы, так і Вугрыі: для Польшчы перастала існаваць небясьпека з боку „Ўкраінскага Піемонту“, а да Вугрыі была далучана яе „вотчына“. Згэтуль можна зрабіць вывад, што Нямеччына адлажыла вырашэньне ўкраінскай праблемы на неазначаны час і, здаецца, ня будзе імкнуцца да яе вырашэньня, пакуль будзе ў саюзе з Польшчай...

Далейшымі этапамі ў нямецкай мабілізацыі на Ўсходзе былі такія факты: гандлёвы дагавор паміж Нямеччынай і Румыніяй і далучэньне да Нямеччыны Клайпэды. Аб гэтых фактах, якія маюць вялізарнае значэньне для ўкладу палітычных сіл на Ўсходзе Эўропы, мы пішам на іншым месцы. Тут хочам толькі адзначыць, што дагэтуль неяснай справай ёсьць, як аднясецца **Літва** да будучага паходу Нямеччыны на Ўсход. А гэта мае і для беларускага народу аграмаднае значэньне. Зараз пасьля ўступкі Літвою Клайпэды разыйшлася весьць, што Нямеччына за Клайпэду абяцала Літве Вільню... Каліб гэта была праўда, дык трэба было-б спадзявацца камплікацыяў у літ. адносінах з Польшчай, аднак у той самы час мы былі сьведкамі прыязнай маніфэстацыі па адрасу Літвы ў польскім сэнаце і варожай прамовы ген. Рашкітіса, павадыра літ. арміі, скіраванай быццам праціў Нямеччыны. Дык магчыма, што гэта весьць ня мае пад сабою рэальных падстаў. Урэшце гэта скора выясьніцца.

**Польшч** дагэтуль афіцыяльна ня выявіла свайго становішча і няма ведама, з кім яна пойдзе, з Англіяй ці з Нямеччынай. Праўду кажучы, яе палажэньне вельмі труднае, бо далучэньне да аднаго ці другога блёку гразіць Польшчы вялікімі камплікацыямі. Аб гэтым піша ўся польская прэса. Для Польшчы найкарысьней былоб захаваць нэўтральнасьць (г. зв. палітыку Бэка) ў будучым змаганьні на Ўсходзе, але кожны разумее, што захаваньне нэўтральнасьці цяпер бадай што немагчымае. Дык з кім ісьці? Дагэтуль становішча Польшчы было вельмі загадковае і, калі з аднаго боку вяліся і вядуцца перагаворы з Англіяй, дык з другога боку маем шмат фактаў, якія сьведчаць, што Польшч супрацоўнічае з Нямеччынай (ліквідацыя Карп. Украіны, стварэньне Славакіі, далучэньне Заользя і г. д.). Мы такжа нічога ня чулі аб пратэстах Польшчы праціў далучэньня да Нямеччыны Чэхіі і Клайпэды. Дык заходня-эўрапэйская прэса часта закідае Польшчы, што яна толькі гаворыць аб саюзе з Захадам, а ў сапраўднасьці супрацоўнічае з Нямеччынай у вырашэньні ўсіх усходніх спраў. Спадзяюцца, што гэтакае няяснае палажэньне Польшчы выясьніцца пасьля візыты мін. Бэка ў Лёндане, куды ён выбіраецца 3.IV. Выясьненьня становішча жадае і польскае грамадзянства, якое вельмі балюча адчувае няпэўнасьць апошніх дзён.

Віл. „Слово“ (28. III), пішучы аб сучаснай польскай палітыцы, кажа, што Польшч толеруе экспансію Нямеччыны ў кірунках, якія не пагражаюць яе бясьпечнасьці, але на ўсе ўмешваньні ў „меншасьці“, на ўсе жаданьні ўступак, адкажа як належыцца. А „Кур. Віл.“ (28. III) жадае ад Нямеччыны за польскую нэўтральнасьць у будучым канфлікце далучэньня Славакіі да Вугрыі і спыненьня ням. наступу на Літву. З гэтага выглядае, што цяпер Славакія будзе адыгрываць такую самую ролю, як даўней Карп. Украіна.

Гэтак прадстаўляюцца справы на Ўсходзе Эўропы. Ня трэба хіба ўспамінаць, што гэтыя справы датычаць і беларускага народу, затым мы павінны зварочваць на іх вялікую ўвагу.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**„Нацыянальная палітыка на Палесьсі.“** Пад гэтакім загалоўкам вясковы орган ОЗН-у „Wieś Polska“ (19. III) зьмяшчае праграмовыя тэзы ў справе польскай нац. палітыкі на Палесьсі. Тэзы гэтыя былі аднагалосна ўхвалены 5. III. сёлета на паседжаньні Палескае Акружное Рады ОЗН-у. Наперад Рада сьцьвярджае:

1) Палесьсе ў граніцах геаграфічна-этнаграфічных ёсьць зямлёю польскаю, а польскае насельніцтва —складовай часткай польскага народу.

2) Разбуджэньне нацыянальнай сьведамасьці палескага насельніцтва (паляшукоў), трывалае, глыбокае і ўсебаковае зьвязаньне яго з Мацерай — ёсьць адным з галоўных заданьняў ОЗН-у на Палесьсі.

3) У акцыі, вядучай да поўнай і суцэльнай палянізацыі Палесься, ОЗН аб'яўляе рашучую і консэквэнтную барацьбу варожым гэтай акцыі элемэнтам: акцыі камуністычнай а такжа нацыяналістычным пасяганьням акцыі расейскай, беларускай і ўкраінскай.

Пасьля сьцьверджаньня гэтык „фактаў“, падаюцца спосабы змаганьня з камуністычнай і нацыяналістычнай акцыямі. Спосабы змаганьня гэтакія:

1) Акцыя перамаганьня нацыяналістычнай прапаганды ўкраінскай, беларускай і расейскай, якія пасярэдня даюць падатлівы грунт дзеля вываротніцкай ідэі, павінна быць ведзена ў тым самым кругу і тымі самымі спосабамі, што і акцыя камуністычная.

2) Адзінай упраўненай мовай на Палесьсі ў дзяржаўнай, самаўрадавай і касьцельнай адміністрацыі, ў школьніцтве, судох і інстытуцыях эканамічных і грамадзкіх, павінна быць толькі і выключна польская мова.

3) Языковыя і школьныя ўставы з 1924 году, дапушчаючыя ўжываньне на Палесьсі ўкраінскай і беларускай моваў павінны быць зьменены.

4) Юліянскі календар, тасаваны ў Праваслаўнай Царкве, павінен быць злучаны з агульна ўжываным у дзяржаве грыгорыянскім календаром.

5) Пэнэтрацыя гаспадарчая і культурная беларуская ці ўкраінская на прасторы Палесься павінна быць спынена законам.

6) Карыстаньне ў зносінах з паляшукамі мовамі расейскай, беларускай і ўкраінскай, а такжа акцыя духавенства, бяручага ўдзел у чужой нацыянальнай акцыі, павінны быць заклеймены, як праступак у адносінах да народу і дзяржавы Польскай.

Вось гэтакія пастановы выносяць правінцыянальныя Рады ОЗН-у! Трэба прызнаць, што такіх шчырых у сваім бязстыдстве рэзалюцыяў рэдка дзе можна спаткаць. І як іх пагадзіць з афіцыяльным становішчам ОЗН-у, што ён шануе ўсе асаблівасьці іншых народаў, пасколькі яны ня б'юць у цэласьць дзяржавы?

**Інтэрпэляцыя кс. Любэльскага.** Пару месяцоў таму адзін з „незалежных“ паслоў у польскім сойме, кс. Любэльскі, падаў інтэрпэляцыю аб уціску, які тасуецца да польскай меншасьці ў Нямеччыне. У інтэрпэляцыі сказана, што паміма існуючай польска-нямецкай умовы ў справе палякоў у Ням. і немцаў у Польшчы, паміма афіцыяльных заяваў, у Нямэччыне праводзіцца сыстэматычнае вынішчаньне польшчыны. Ніколі ў даўнеўшых часох польская мова ня была так прасьледавана, як цяпер. Прасьлед гэты ня спыняецца нават у касьцеле, польскія набажэнствы і навукі касуюцца, а на іх месца ўводзяцца нямецкія; нямногіх польскіх ксян-

# Шляхі Нямеччыны на Ўсход.

У сувязі з падзеямі ў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе (далучэньне да Нямеччыны Чэхіі і Клайпэды) польская прэса многа піша на тэму далейшых мэтаў Нямеччыны на Ўсходзе. Артыкулы ў польскай прэсе маюць значэньне ня толькі дзеля пазнаньня мэт і плянаў Нямеччыны, але такжа дзеля пазнаньня становішча Польшчы адносна гэтых мэт і плянаў. На некаторыя з гэных артыкулаў мы тут хочам зьвярнуць увагу.

„Кур. Віл.“ (25.III) зьмясьціў грунтоўны артыкул В. Вельгорскага пад заг. „Два шляхі“. Прасьледзім ягоны зьмест у вагульных лініях.

„Выпадкі апошніх дзесяці дзён мелі даволі выразнасьці, кажа В. В., каб можна было на іх падставе вытычыць дарогі паходу гітлероўскай Нямеччыны на ўсходзе Эўропы. Ёсьць іх дзьве: балтыцкая і чорнаморская. „Бурштынавы“ шлях, узноўлены пасьля многіх стагодзьдзяў, прынёс пры першым удары не абыякую здабычу. Тэўтоны палажылі руку ізноў на нёманскім гарляку, на Клайпэдзкім порце. Перайшлі яны адначасна карыта гэтай ракі і занялі магутны прычолак на яе паўночным беразе, расьцягваючы ўладу на паласу ўздоўж ніжняга бегу Нёмана, званую ў іхнай мове „Memelland“. Згэтуль адчыняюцца шырокія пэрспэктывы на Ліфляндыю і фінскую затоку, адкуль яны муселі адыйсьці ў 1918 годзе.

Балтыцкія краі — гэты пярэдні пляцдарм дзеля паходу на Расею, гэта далейшае пашыраньне гаспадарчых уплываў у басэйне Дзьвіны, пасьля апанаваньня басэйну Нёмана. Заключаны ў Бэрліне 22.III.39. літоўска-нямецкі дагавор аб перадачы Клайпэды Нямеччыне, мае ў сабе цікавы артыкул 4-ты, у якім чытаем: „абедзьве староны забавязваюцца не тасаваць узаемна гвалту, ані памагаць у тасаваньні гвалту, скіраванага праціў аднаго з контрагэнтаў нейкім трэцім“. Інтэнцыяй гэтага артыкулу, кажа В. В., ёсьць вывясьці Літву з ігры, асуджэньне яе на нэўтральнасьць, у выпадку, напрыклад, аружнага змаганьня паміж Польшчай і Нямеччынай. Празорнасьць зусім годная пахвалы — кажа В. В.

Кірунак чорнаморскага шляху быў у вапошніх дзесяці днях ня толькі Нямеччынай вызначаны, але і пройдзены ў маланкавым тэмпе па лініі Вена—Констанца. Пачаткам да гэтай акцыі было прошлагодняе ўвассаньне Нямеччынай Аўстрыі і моцнае абаснаваньне яе ў верхнім басэйне Дунаю.

У бягучым мамэнце першым этапам было заняцьце Чэхіі і Маравіі, другім этапам была Славакія. Абвешчаны нядаўна тэкст „абароннага пакту з Славакіяй“, робіць з гэтай нібы дзяржавы карыдор для праходу нямецкага войска. Гэты карыдор мае быць бароны сыстэмай укрэпленьняў уздоўж граніцы ў Карпатах. Жалезны абруч мае абхапіць польскую граніцу з поўдня.

Далей на ўсход ляжыць тэрыторыя Вугрыі. Італьянцы і немцы ўпхнулі яе ў рамы антыкамуністычнага пакту і маюць праканаьне, што паставілі яе на службу восі Бэрлін—Рым. Скора будзем магчы праканацца, ці іх праўда. Немцы пэўныя, што праз Вугрыю яны пашыраць сваю экспансію ў кірунку чорнаморскіх берагоў.

Урэшце 24.III сёлета сьвет даведваецца аб умове нямецка-румынскай. Ведамасьці аб гэтай умове паказваюць, якую ролю вызначылі Румыніі немцы ў сваіх плянах. Сяньняшняя Румынія—гэта абшырны край, прасторам 300 тысяч кв. клм., ведамы з ураджайнай глебы і багацьця сваіх капальняў. Гэты край, як відаць з умовы, мае служыць за галоўную апровізацыйную базу Нямеччыны, як у сэнсе спажывецкім так і сыравінным. Немцы маюць намер разбудаваць пры помачы свайго капіталу промысел гэтага краю. Прадбачыцца дабываньне нафцянай ропы, медзі, серкі і высокавартасных жалезных рудаў з прымешкай хрому і мангану, патрэбных для вырабу найлепшых гатункаў сталі. Гэтакіх рудаў Нямеччына ў найбліжэйшым суседзтве ня мае. Прадукты капальняныя і земляробскія будуць дастаўляны ў Нямеччыну па Дунаю. Характэрна прыгэтым тое, што Нямеччына бярэ на сябе труд уваружэньня і заспасабленьня Румыніі.

З-над чорнаморскіх берагоў урэшце адчыняюцца бязьмерныя горызонты чорнаморскіх стэпаў на Адэсу і Крым.

А дзе-ж ёсьць месца Польшчы ў гэтай праграме? — пытаецца аў-

# На беларускім грунце

## У вялікія ўгодкі.

25 сакавіка сёлета мінула 21 год ад дня Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. У гэты дзень Бел. Студэнцкі Саюз у Вільні хацеў зладзіць Акадэмію, каб належна ўспомніць і ўшанаваць гэтую вялікую гадаўшчыну. З гэтай мэтай была пададзена ўладам віл. унівэрсытэту просьба аб дазволе на Акадэмію, аднак наступіў адказ адмоўны дзеля тэй прычыны, што ўнівэрсытэт нячынны з прычыны Вялікодных фэрыяў. Дык віл. беларусы гэтыя вялікія ўгодкі абходзілі ў прыватных кругох.

Мы ў мінулым годзе (Б. Фр. 5. IV. 38) пісалі, што некаторыя польскія кругі вельмі неахвотна, а нават варожа адносяцца да сьвяткаваньня ўгодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Мы тады адзначылі, што гэтакія адносіны несправядлівыя з наступных прычын:

1) Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі ёсьць фактам **гістарычным** і ніякая сіла гэтага факту з гісторыі ня выкасуе.

2) Абвешчаньне Незалежнасьці адбылося ў Менску, за граніцамі Польшчы і ў часе, калі яшчэ Польскай дзяржавы ня было. Прыгэтым Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі ня было скіраванае проціў Польшчы, але проціў Расеі.

3) Сьвяткаваньне гістарычнага акту, які ня быў скіраваны проціў польскага народу, ані проціў польскай дзяржавы, ня можа мець прымет праступку ў Польскай Дзяржаве.

4) Гэты гістарычны акт, разгляданы ў сваім зьмесьце, ня мае ў сабе варожасьці адносна суседніх народаў наагул, а народу польскага ў асобнасьці.

Дзеля гэтага ўважаем, што ўшанаваньне, нават **публічнае**, беларусамі памяці гэтага гістарычнага акту, павінна быць талеравана польскімі дзейнікамі, тымболей што сёлета віленскія літоўцы мелі магчымасьць адсьвяткаваць угодкі абвешчаньня сваей незалежнасьці. Дык чамуж такая няроўнасьць адносін?

## НЯДОБРЫЯ ВЕСЬЦІ.

З Жодзішак (Вялейскага пав.) паведамляюць, што ў палавіне сакавіка паліцыя праводзіла рэестрацыю тых, хто выпісвае беларускія газэты. Трэба адзначыць, што страху або грозьбы не ўжывалі, толькі сьпісвалі, хто якую газэту выпісвае. Паміж людзьмі з гэтай прычыны пайшлі розныя весткі.

Ня ведаем, ці такія зьявішчы адбываюцца ўсюды. Напрыклад, у Маладэчаншчыне, дзе нядаўна яшчэ забаранялі прадаваць бел. календары, паліцыя ў вапошнім часе заяўляла людзям, што беларускія легальныя газэты чытаць можна. „Ну штож, вы беларусы, дык і чытайце беларускія газэты“.

Затое з другіх бакоў прыходзяць зусім іншыя весьці. І так, ад аднаго з нашых падпісчыкаў з Вялейшчыны, ад каторага мы пару разоў атрымлівалі складку, прыйшла адкрытка, з просьбай, каб яму болей „Бел. Фронту“ не прысылаць. Гэтае самае атрымалі з Лідчыны, Дзісьненшчыны і іншых паветаў — ад людзей, якія нам прыслалі грошы. Адна асоба з Лідчыны прыслала нам складку і зараз на другі тыдзень адказалася ад газэты! Нядаўна з Пастаўшчыны мы атрымалі такую характэрную адкрытку, пісаную ў польскай мове. Зьмест яе такі: „Паважаныя п.п, Выдаўцы! Ветліва дзякую, што праз гэтулькі часу, зусім бязінтарасоўна Вы былі ласкавы прысылаць мне свой часапіс, а пакуль, што прашу чым скарэй выкасаваць мяне з ліку падпісчыкаў „Бел. Фронту“ на час неазначаны. Астаюся з пашанай і г. д.

Гэтыя пісьмы сьведчаць аб тым, што перапісваньне падпісчыкаў беларускіх газэт вядзецца ня толькі ў ваднэй мясцовасьці, але і ў інш. Для нас спачатку было незразумелым, чаму наш вясковы чалавек, прыслаўшы грошы, раптам адказваецца ад газэты, але цяпер, пасьля сьцьверджаньня фактаў перапісваньня паліцыяй людзей, выпісваючых бел. газэты, для нас гэта робіцца ясным. Дапусьцім, што паліцыя робіць толькі фармальную рэестрацыю падпісчыкаў газэт, патрэбную, скажам, дзеля нейкай статыстыкі, сколькі якіх разыходзіцца ў народзе газэт, то ў вачах часткі нашага сялянства такая рэестрацыя ўжо выглядае страшной і некаторыя шлюць адкрыткі (падчырківаем — **адкрыткі**) з просьбай спыніць ім газэту. Прыгэтым дзякуюць за „бязінтарасоўнае“ высыланьне ім газэты, хоць прысылалі па некалькі разоў складку, (Ад асобы, якая нам прыслала адкрытку аб „бязінтарасоўным“ высыланьні мы **двойчы** атрымалі грошы!).

Ізноў-жа пішуць да нас з Вялейшчыны, што там не атрымліваюць зусім „Бел. Фронту“ (пошта Куранец), На гэтую пошту трэба будзе падаваць скаргу.

Гэтакія нядобрыя весьці ідуць з беларускага сяла.

## З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ

**Хр. Думка** (20.III) піша аб магчымасьці супрацоўніцтва беларусаў з польскім „Stronnictwem Ludowym“ і ППС. Гэтае супрацоўніцтва быццам ўжо існуе ў многіх мясцох і нямала беларусаў спатыкаецца ў радох „Стр. Людовага“ і ў работніцкіх саюзах, якія знаходзяцца пад уплывам ППС. У гэтых арганізацыях, паводле Хр. Думкі, беларусы быццам не хаваюцца і выразна выяўляюць свой нацыянальны воблік. Але бяда ў тым, што „прысутнасьць там беларусаў старанна хаваюць цэнтральныя ўлады гэтых арганізацыяў, асабліва „Стр. Людовэ“. Неахвотна выяўляе беларусаў і ППС“ — кажа „Хр. Думка“.

Пасьля сьцьверджаньня гэтакіх адносін польскіх арганізацыяў да беларусаў, трэба было спадзявацца, што „Хр. Думка“ напіша так: „Калі вы, людоўцы і пэпэсоўцы, нас не прызнаеце за поўнапраўны народ, дый яшчэ закрываеце нас у сваіх собскіх арганізацыях, дык мы да вас ня пойдзем“. Аднак „Хр. Д.“ прыходзіць да іншых вывадаў: яна раіць беларусам уступаць у „Стр. Людове“ і ППС, пад такімі варункамі: 1) каб польскія людоўцы прызналі беларускі народ і яго нацыянальныя, сацыяльныя і палітычныя правы і каб аб гэтым пісалі ў сваіх польскіх газэтах; 2) каб прызналі і патрэбу беларускай для беларусаў школы і каб памагалі беларусам здабыць яе; 3) каб выдавалі беларускую газэту дзеля пашыраньня яе пасярод беларусаў, сябраў „Стронніцтва Людовага“. — Бяз прызнаньня гэтага minimum для беларусаў з боку „Стр. Людовага“ і ППС праца беларусаў у гэтых арганізацыях будзе шкоднай для беларускага народу.

Гэтак піша „Хр. Думка“.

А нам здаецца, што праца ў польскіх арганізацыях заўсёды ў цяперашніх варунках будзе шкоднай. Раз — што гэныя польскія арганізацыі такіх варункаў ніколі не споўняць, а другое — што ўваход і згода на такое супрацоўніцтва прычыніцца да палянізацыі беларусаў у гэтых арганізацыях і ўгрунтуе іхнае янычарства, як гэта мы бачым ў Беластоку і іншых мясцох.

Да гэтай справы мы яшчэ вернемся.

У дадатку да „Шляху Моладзі“ (25.III) пад назовам „Шлях Беларус.

(Далей на адвароце).

---

дзоў, каторыя змагаюцца за правы польскага народу, выкідаюць з парахвіяў, а на іх месца прысылаюць нямецкіх. Прыладай германізацыі ёсьць нямецкая школа. Пад рознымі пагрозамі прымушаюцца бацькі пасылаць свае дзеці ў нямецкія школы, дзе іх узгадоўваюць у варожым да польшчыны духу. Масава зьмяняюць польскія назовы мясцовасьцяў на нямецкія. Караецца нават выпісваньне польскіх газэт. Словам, усімі спосабамі немцы вынішчаюць польшчыну на абшары Райху і Гданска.

Друкуем зьмест гэтай інтэрпэляцыі зараз пасьля озоноўскіх рэзалюцыяў, каб паказаць, што ня толькі ў Нямеччыне ёсьць людзі, якія прасьледуюць чужое, але ёсьць такія і ў Польшчы, і то ў кіраўнічай партыі, якія галяцца на бедных паляшукоў, каб іх спольшчыць. Спытаемся, чаму такія няроўныя адносіны да германізацыі палякоў і да палянізацыі паляшукоў?

**Паляк Морозовъ.** У мінулым месяцы маладэчанскі бацюшка Марозаў, ведамы з сваіх „істінна-рускіх“ паглядаў, склікаў сход братчыкаў і іншых праваслаўных прыхаджан. На гэтым сходзе даказываў, што праваслаўныя беларусы Маладэчна і ваколіц — гэта палякі, прыгэтым радзіў закладаць „Т-ва праваслаўных палякоў“, кажучы, што тады да праваслаўных будуць лепшыя адносіны, дазволяць купляць зямлю, ставіць будынкі і г. д. На сходзе было пару сот чалавек, але калі Марозаў запрапанаваў залажыць гэтае Т-ва, ніхто не згадзіўся. Так яно і асталося і Маладэчна пакуль што жыве без праваслаўных палякоў. Астаецца адзін а. Марозаў, але ён патрапіць быць і „істінна-рускім“ і „істінна-польскім“, „как прыкажут“.

**Высылка ў Бярэзу.** У канц. лагер у Бярэзе высланы ведамы польскі публіцыст рэдактар віл. „Слова“, Ст. Мацкевіч. Прычына высылкі, што Ст. М. падрывае давер да абаронных магчымасьцяў дзяржавы, паніжае павагу дзяржаўных уладаў, пашырае дэфэтыстычныя (зьняможніцкія) настроі ў нутраным і вонкавым палажэньні дзяржавы, проціўдзеяў акцыі нацыянальнага аб'еднаньня. У абароне Ст. М. выступілі прадстаўнікі польскага грамадзянства і прэсы, якім заявілі, што М. высланы ў Бярэзу на дзін месяц.

Апроч Ст. М. высланы ў Бярэзу і беларусы: Пятровіч з в. Быкі Палачанскае вол., Гарошка Антон з в. Люйсічы Маладэч. вол., былы маладэчанскі войт з выбару. На які час гэтыя высланы — няведама.

---

тар. Як бачым, абодва шляхі, на якіх разьвярнуўся ў сямімілёвых ботах паход германства, абхватываюць Польшч сваімі рукамі з поўначы і з поўдня, як васьмёрніца абхватывае нурца ў глыбіні акіяну. Пашто немцы маюць праліваць сваю кроў у цяжкім змаганьні з дзяржавамі Захаду каб здабыць афрыканскія калёніі? У працягу дзесяці дзён яны бяз аднаго стрэлу рэалізавалі праграму, якая аддае ім увесь басэйн Дунаю, як калёнію.

Гэтак піша „Кур. Віл.“. Артыкул гэты цікавы тым, што прадстаўляе вобразна нямецкі плян акружваньня Польшчы пры помачы двух шляхоў: балтыцкага і чорнаморскага.

Другога роду артыкул прыносіць віленскі орган ОЗН-у „Goniec Poranny“ (25.III), які ў артыкуле „Pełnomocnictwa Zachodu dla Adolfa Hitlera“ абгаворвае справу становішча заходніх дзяржаў у прыпадку нападу Нямеччыны на Польшч. Восьжа паводле камунікатаў, надыйшоўшых з Лёндыну (пасьля візыты там франц. прэзыдэнта Лебрэна), Францыя і Англія дайшлі ўрэшце да паразумленьня ў справе спыненьня далейшай нямецкай агрэсіі. Пастаноўлена, імена, што калі б Гітлер выступіў проціў якой-небудзь з дзяржаў, ляжачых на захад ад Нямеччыны: Галяндыі, Бэльгіі, Швайцарыі, дык Англія і Францыя, ня гледзячы на свае асабістыя інтарэсы, выступяць у абароне гэтай дзяржавы.

Калі ўважна ўдумаемся ў гэты камунікат, кажа „Goniec Por.“, дык з яго выглядае, што Англія і Францыя гатовы нават на аружнае змаганьне, але толькі ў тым прыпадку, калі Гітлер скіруецца **на Захад.** Калі-ж ён скіруецца на Ўсход і — дапусьцім — знойдзе прычыну да сарваньня пакту ненападаньня з палякамі і выступіць проціў Польшчы, што тады? — пытаецца газэта. Ці вялікія дзяржавы Захаду выступяць у абароне Польшчы? Відаць, што будуць маўчаць, бо падчас сваіх лёнданскіх нарадаў яны пастанавілі проціўставіцца нямецкай агрэсіі на захадзе, а не на ўсходзе! А калі так, дык ці гэтая пастанова не зьяўляецца якбы поўнамоцтвам, дадзеным Гітлеру, на далейшую дзейнасьць на ўсходзе Эўропы ў тым духу, у якім ён дзеіць ужо ад даўжэйшага часу?

Вялікія дзяржавы Захаду, кажа далей газэта, бараніліб сваіх собскіх інтарэсаў, бараніліб справы Чэхаславаччыны або Клайпэды, але бараніць таго краю, з якім яшчэ, як відаць, Гітлер лічыцца, тыя дзяржавы няздольны. Гэта ўжо завялікая для іх ахвяра. Яны гэтага не разумеюць, што ў выпадку аружнага канфлікту паміж Польшчай і Нямеччынай, калі б і Польшч паддалася насільству, Гітлер вельмі ўзмогсяб і тадыб нішто яму не стаяла на перашкодзе. Што ў такім прыпадку мае рабіць Польшч? Ці мае ісьці пад каманду свайго ўсходняга суседа, з каторым, так як і з заходнім, хоча жыць у як найлепшай згодзе, але катораму, так як і нікому, паддавацца ня хоча і ня можа? З усяго выглядае, што дзяржавы Захаду, замест таго, каб праліваць сваю вартасную кроў, даручылі Савецкаму Саюзу дзеяньне на Ўсходзе... Што-ж мае рабіць Польшч? — пытаецца газэта. Заламаць рукі і ўпасьці на калені? Або падняць горда галаву і выказаць веру ў свае ўласныя сілы і ў моц свайго духа?.. Захад сягоньня адчувае немач не сваей матар'яльнай магутнасьці, але немач сваей веры і гатоўнасьці да ахвярных чынаў. Бо калі Захад дзівіцца з чэхаў, што так лёгка згадзіліся на страту сваей незалежнасьці, дык несправядліва паступае, бо ён да чэхаў зусім падобны...

Істотная вартасьць і веліч Гітлера ляжыць у тым, што ён разумее гэту псыхіку Захаду і выкарыстоўвае яе. Ён умее расшыфраваць пад азнакамі магутнасьці істотную маласьць духа.

Вялікія дзяржавы Захаду даюць Гітлеру вольную руку на Ўсходзе, каб толькі іх не чапаў. Дык толькі ў салідарнай акцыі меншых дзяржаў ляжыць істотная абарона міру. Інакш трэба будзе пэўне застасавацца да кліча, каторым закончыў Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай сваю апошнюю прамову, у каторай чэсьць стаіць на першым месцы, нават перад Бацькаўшчынай — канчае свой артыкул „Goniec Por.“.

Як першы так і другі артыкул вельмі вымоўны; яны сьведчаць аб тых палітычных кірунках і настроях, якія перажывае польскае грамадзянства ў сувязі з імкненьнямі Нямеччыны на Ўсход.

Р.

